


# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

№ 5
1940 г.

# Маладая вясна

Змітрок Бядуля

То не снег,
То чаромха цвіце.
То не снег,
То бярозка расце.
То не снег—
Расцвітае садок.
То не снег,
А ляціць матылёк.

То не шоўк,
Гэта рунь ля гары.
То не шоўк,
А сон-цвет у бары.
То не шоўк,
А мурожны лужок.
То не шоўк—
Маладзенькі лянок.

Не гусляр,
То пяюць салаўі.
Не гусляр,
То звіняць ручаі.
Не гусляр,—
Дрозд у гаі пяе.
Не гусляр,
Гэта пчолка гудзе.

Ах, вясна
Маладая мая!
Пад табой
Ажывае зямля.
Пад табой
І звініць і пяе
Нават жук,
Нават мушка ў траве.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
МАЙ 1940 г. № 5




# Начальнік артылерыі

ЯНКА МАЎР

Рыс. М. СВЯЦКАГА

Нікому так не пашанцавала Першага мая, як акцябронку Васю.

Жыў ён на самым канцы горада, там дзе пачынаецца поле. У горадзе ён бываў рэдка і, калі праўду сказаць, яго можна было лічыць больш вясковым жыхаром, як гарадскім. Толькі дзіцячы сад, які быў недалёка і куды Вася хадзіў ужо другі год, злучаў яго з вялікім светам.

У дзіцячым садзе ўсе мужчыны і значная частка жанчын былі вайскоўцы. І не абы якія, а ўсе героі і камандзіры: капітаны, палкоўнікі, нават камандармы. Былі, вядома, Чапаеў, Будзённы, Чкалаў, Папанін. Былі танкісты, кавалерысты, артылерысты, маракі, лётчыкі, кулямётчыкі; знайшоўся і адзін сапёр. Многа было санітарак і ваенных дактароў-жанчын. Каб які-небудзь вораг падслухаў гутаркі гэтага храбрага калектыва, то пэўна спалохаўся-б. Там з аднаго маху разбівалі палкі і арміі, там дзяржавы ляцелі, як паперкі ад ветра.

І сярод усіх гэтых герояў выдатнае месца займаў наш Вася. Ён быў артылерыстам. Вядома, не радавым артылерыстам, а камандзірам усёй артылерыі. Такое становішча яго зусім задавальняла. Што ні кажы, а ўсёй артылерыяй не кожны можа камандаваць. І ніхто не падумаў над тым, што значыць слова «ўся». Вася і яго таварышы па прастаце лічылі, што «ўся» артылерыя—гэта наша, савецкая. А зайздроснік Міша ўзяў ды абвясціў сябе начальнікам усёй той артылерыі, якая ёсць ва ўсім свеце. Тут ужо пераскочыць яго ніякім чынам нельга было. І Вася павінен быў цярпець такое самазванства. Праўда, Мішу прызналі нямногія—санітаркі Ніна з Тамарай ды сапёр Косцік, але факт аставаўся фактам: не Вася першы прыдумаў такі высокі пост, а Міша. Абавязкова трэба было перакрыць Мішу, але якім чынам?..

Вось тут і здарылася тое, пра што мы хочам расказаць. Першага мая, яшчэ з рання, затупала, залязгала, загрукатала войска каля Васінага дома. Ці мог Вася спаць у такі вялікі момант? Вядома, не. Ён даўно ўжо сядзеў на плоце і сачыў за кожным чырвонаармейцам, за кожнай машынай. Ішлі пяхота і кавалерыя, танкі і тачанкі, а самае галоўнае—артылерыя, тая самая артылерыя, якой камандаваў Вася. Тут былі і звычайныя палявыя гарматы, і кароткія пузатыя гаўбіцы, і даўганосыя зенітныя і лёгкія процітанкавыя і цяжкія велізарныя махіны, якія маглі везці толькі трактары, і, нарэшце, вельмі складаныя машыны на грузавіках. Яны праходзілі перад Васькам, як на парадзе перад начальствам, нібы ведаючы, што Вася—начальнік артылерыі.

Раптам усё войска спынілася. І спынілася, відаць, надоўга, бо чырвонаармейцы злезлі са сваіх гармат і размясціліся вольна—гаманілі, смяяліся, жартавалі, курылі. Перад Васькам спынілася акурат адна такая гармата на грузавіку. Вася адразу заўважыў, што грузавік мае не

чатыры колы, а шэсць, і ўсе падвойныя. А гармата была закрыта шырокім брэзентам. Толькі хобат высоўваўся далёка. А чырвонаармейцы, якія распараджаліся гэтай гарматай, ехалі следам за ёй на асобнай машыне. Цяпер палова з іх злезла на зямлю, а адзін нават звярнуўся да Васі:

— Слухай, герой, ці не дастаў-бы ты нам вады папіць?

Мы забыліся сказаць, што ў Васі на галаве быў чырвонаармейскі шлем. Як вядома, усе акцябраты жыць не могуць без чырвонаармейскага шлема. Вася з радасцю прынёс кубак вады, потым яшчэ адзін, потым зноў, тады яшчэ, яшчэ і яшчэ... Ён адчуваў такое шчасце, што ахвотна згадзіўся-б насіць такім чынам ваду ўвесь дзень, нават два дні, і месяц, і год... Але, на жаль, праз некалькі мінут ён напаіў усю Чырвоную армію, што стаяла каля іх хаты.

Адсюль пачалося ўжо сяброўства з чырвонаармейцамі.

— Ты хто такі будзеш?—спытаўся адзін чырвонаармеец, тыкаючы пальцам Ваську ў шлем.

— Артылерыст,—з гонарам адказаў Вася.

— О, свой брат!—дружна загулі чырвонаармейцы.

— А чаго ты на парад не выходзіш?—спытаў другі чырвонаармеец.

На гэта Вася нічога не мог адказаць. Ды і як было сказаць, што яго ніхто на парад не бярэ? Эх, каб можна было сесці вось так на машыну ды паехаць на парад! Вася аж вочы заплюшчыў, уяўляючы сабе, якое гэта было-б шчасце... Але нічога не зробіш—прыходзілася адкласці гэтае шчасце да таго часу, калі ён вырасце.

— Вы ў Фінляндыі ваявалі?—спытаўся ў сваю чаргу Вася. Цяпер ужо чырвонаармейцам не было чаго адказваць. Адны здзівіліся і засмяяліся: «Ого, які ён!» Другія, жартуючы, адказалі, што ваявалі, а рэшта павінны былі шчыра прызнацца перад Ваським, што не ваявалі.

— А я буду ваяваць,—сказаў тады Вася з важным выглядам, адчуваючы перавагу перад чырвонаармейцамі.

— Ах, ты, герой!—крыкнуў малады вясёлы артылерыст Малькоў і, схапіўшы Васю пад пахі, падняў яго высока-высока, а потым пасадзіў на край машыны.

Вася адразу-ж зацікавіўся гарматай. Каб не дула, якое высоўвалася далёка назад, то гэта гармата была-б зусім падобная да якога-небудзь фабрычнага станка, афарбаванага ў зялёны колер. Тая частка, дзе былі ўсялякія ручкі, рычагі, калёсікі, была пакрыта зялёным брэзентам.

— Хочаш ехаць з намі на парад?—спытаў адзін баец.

— Хачу! Вельмі хачу!—узрадаваўся Вася, але яго зараз-жа засмуціў Малькоў.

— Няма, браток, месца для цябе,—сказаў ён.

— А я тут,—паказаў Вася на мясцінку каля гарматы, дзе пад брэзентам ён мог-бы зусім добра прытуліцца, нават так, што ніхто яго і не бачыў-бы.

— Нельга тут. Лепш пачакай колькі гадкоў, і тады паедзеш, як сапраўдны артылерыст.

Раптам па ўсяму войску пакацілася каманда:

— На месцы! Стройся!

Як замітусіліся чырвонаармейцы! Як



кінуліся кожны на сваё месца! Малькоў ледзь паспеў паставіць Васю на зямлю і сказаць яму—«Ідзі!» Можна смела сказаць, што ў гэты момант ніхто пра Васю не думаў, ніхто яго не бачыў...

Коціцца магутная рака па Савецкай вуліцы к Дому Урада, дзе на трыбуне стаяць кіраўнікі нашай рэспублікі, вышэйшыя ваенныя начальнікі і лепшыя прадстаўнікі народа.

Цокаюць па каменнаму бруку конскія капыты, дрыжыць зямля ад мернага, глухога тупату пяхоты, скрыгочуць танкі, лязгаюць гарматы, грыміць музыка, нясецца магутнае «ура!», гудуць у небе самалёты...

Стройна, нерухома сядзяць байцы ў машынах, якія ідуць за сваімі гарматамі. Блішчаць, свецяцца ад радасці вочы маладшага камандзіра Малькова. Раптам ён чуе, што таварыш штурхае яго пад бок. Здзівіўся Малькоў, скоса паглядзеў на таварыша, а той вачыма паказвае наперад, на гармату. Зірнуў туды Малькоў—і ўся яго радасць адразу-ж знікла: ён убачыў, што там пад брэзентам нешта варушыцца, а потым убачыў плячо і галаву хлопчыка, таго самага Васю, з якім яны толькі што пазнаёміліся. Але хлопчык высунуўся толькі на адзін міг: ён, відаць, сам спалохаўся і зараз-жа зноў схаваўся.

Што рабіць? Ужо блізка трыбуна. Не спынішся цяпер, не высадзіш гэтага хлопчыка... А ўбачыць начальства—колькі бяды будзе, колькі сораму! Не дагледзелі... дазволілі хлапчуку залезці, куды не трэба... Які непарадак у ваеннай справе... Ды яшчэ на парадзе. А можа якая бяда здарыцца з гэтым хлопчыкам, ці ён якую шкоду зробіць?..

Вось ужо і трыбуна. Усе навакол радасна крычаць «ура!», а ў Малькова трывога на сэрцы. Але хлопчык больш не варушыцца і не высоўваецца. Можа яго ніхто і не заўважыць?!.

А Вася сапраўды спалохаўся. Ён ведаў, што зрабіў недазволены ўчынак, ён ведаў, што за гэта яго не пахваляць. І калі падумаў, што гэта могуць убачыць усе вышэйшыя начальнікі, то пашкадаваў аб сваёй смеласці. Ён думаў толькі аб тым, каб яго ніхто не ўбачыў і каб ціханька ўцячы адсюль.

Дзякуючы гэтаму машына шчасліва праехала міма трыбуны: ніхто хлопчыка не бачыў. У Малькова адлягло ад сэрца. Як толькі машыны прыпыніліся, ён падбег і высадзіў хлопчыка. Вася ўбачыў, што вясёлыя чырвонаармейцы, якія былі з ім такія добрыя прыяцелі, цяпер глядзяць на яго незадаволена, папракаюць яго:

— Ты што гэта нарабіў? А мы лічылі цябе добрым хлопчыкам...

Вася хуценька пабег да хаты, не адчуваючы ніякай радасці ад таго, што яму ўдалося так незвычайна ўдзельнічаць на парадзе. Але пакуль ён дабег да дому, уся гэтая непрыемнасць знікла без следу. У свой двор увайшоў ён ужо героем.

Начальнікам сусветнай артылерыі канчаткова быў прызнаны Вася. Міша паспрабаваў быў спрачацца, але ад яго адмовіліся нават санітаркі Ніна з Тамарай і сапёр Косцік.





# Мядзведзі Вышамірскага

**З. БЯДУЛЯ**

*Рыс. ГЕДДЫ*

Вышамірскі быў на многа старэйшы за майго дзеда. Ён быў каморнікам. Яго хутарок стаяў на другім канцы мястэчка. Хата яго была пабудавана на гарадскі лад—высокая, з вялікімі вокнамі, з галубятняй у выглядзе прыгожай вежы, з верандай, апленай жывым хмелем. У хаце віселі клеткі з канарэйкамі, чыжыкамі, ваверкамі. У сенцах жыла прывязаная на ланцужку лісіца. Была ў яго доўгая палоска зямлі, агароджаная навокал высокім частаколам. Ён жыў з трыма незамужнімі дочкамі, якіх у нас звалі паненкамі.

Любімым заняткам Вышамірскага было паляванне. У той час ён ужо быў слабы, непрацаздольны. Гаспадаркай пад яго даглядам займаліся дочкі.

За Вышамірскім бегаў яго вечны сябар—стары пёс Лютня. Абодва яны дажывалі свой век. Вышамірскаму асталася адна ўцеха — успаміны, якімі ён дзяліўся з людзьмі ўсяе ваколіцы. Яго лічылі за манюку, бо ён апавядаў з свайго паляўнічага жыцця такія дзівосныя гісторыі, якім, сапраўды, цяжка было верыць.

Невысокага росту, худы, з чыста выгаленым тварам, ён хадзіў ад хаты да хаты і частаваў людзей паляўнічымі апавяданнямі. Улетку ён насіў белую палатняную вопратку і такі-ж капялюш. Зімой ён быў апрануты ў футру. На галаве—цёплая шапка.

Калі-ні-калі Вышамірскі прыносіў дзеду ў кузню мёд і яблыкі. Дзед кідаў работу, запрашаў Вышамірскага ў хату і частаваў чаем.

Вышамірскі апавядаў розныя прыгоды са свайго паляўнічага жыцця, галоўным чынам пра паляванне на мядзведзяў. Такіх апавяданняў у яго было шмат.

Аднаго разу ён сустрэўся з мядзведзем адзін-на-адзін, лоб-у-лоб. Мядзведзь вырваў з яго рук стрэльбу, зламаў яе папалам і кінуў. Абхапіў Вышамірскага лапамі ды хацеў задушыць. Пёс Лютня ўскочыў мядзведзю на спіну і давай кусаць. На хвіліну мядзведзь выпусціў Вышамірскага з лап і пачаў скідваць з сябе Лютню. Вышамірскі выхапіў нож, каб зарэзаць мядзведзя, але





мядзведзь зноў наваліўся на яго, кінуў на зямлю, а Лютня—скок на мядзведзя.

Выпадкова натрапіў на іх другі паляўнічы. Ён выстраліў у самае вуха мядзведзя. Аднак мядзведзь паспеў моцна пакалечыць і Вышамірскага і Лютню.

Вышамірскі расшпіліўся і паказаў на грудзях і спіне страшныя глыбокія рубцы—сляды кіпцюроў і зубоў звера.

Ён і другі раз раптоўна трапіў на мядзведзя. І Вышамірскі і Мішка аслупянелі ад такой нечаканай сустрэчы. Вышамірскі выхапіў табакерку і сыпнуў нюхальным тытуном Мішку ў вочы. Мядзведзь на хвіліну аслеп, зажмурыў вочы, зароў, завыў, хацеў кінуцца на Вышамірскага. Вышамірскі адскочыў за дрэва. Мядзведзь з усяго імпэту стукнуўся лабацінай аб хвою і паваліўся. Вышамірскі стрэльнуў у яго пару разоў і прыкончыў.

Адбылося і такое здарэнне. Мядзведзь унадзіўся ў пчолы Вышамірскага.

Псаваў калоду за калодай. Тады Вышамірскі паставіў капкан. Мядзведзь папаўся жывы. Прышлі цыганы. Адкупілі мядзведзя. Закавалі ў ланцугі. Прабілі яму нос напаленым дачырвана жалезам. Прадзелі праз нос колца і пагналі ў мядзведскую смаргонскую акадэмію на навуку. Тады цыганы ў горадзе Смаргоні навучалі мядзведзяў розным фокусам, пасля чаго вадзілі іх па гарадах і гэтым зараблялі на хлеб.

А вось адзін каваль знайшоў у лесе маленькага Мішачку. Прынёс дамоў. Выгадаваў. Мядзведзь зрабіўся ручным. Ваду насіў. Малатком у кузні працаваў. Жорны круціў. Дзяцей калыхаў, як нянька. Нават песні спяваў. Усё-ўсё ў хаце рабіў. Часам яго запрагалі ў воз. Ён вазіў сена. А як ён на вечарынках танцаваў—о-го-го-ого! Увесь народ весяліў!

І яшчэ адно апавяданне.

Кожны раз, калі Вышамірскі гаварыў „і яшчэ адно апавяданне“, ён дадаваў:

— Каб я з гэтага месца не ўстаў, калі маню!

Адзін мужычок, звалі яго Хомка, паехаў у панскі лес мох дзёрці. Надзёр моху поўны воз. Бачыць ён—пара медзведзянят гуляе на сонцапёку. Яны лагодненькія, калмаценькія, смяшлівыя, як тыя дзеці. Кульгікаюцца, качаюцца па зямлі, скачуць, тоненькімі галаскамі візгочуць. Забаўляюцца. Хапаюць адно аднаго за вушкі. Жартуюць. Міны забаўныя строяць. Глядзіць на іх Хомка і рагоча—камедыя.



Любуецца на іх мужычок. А медзведзяняткі яшчэ дурненькія. Не разумеюць, што трэба ўцякаць ад чалавека. Тут Хомка ўспомніў, што ў вёску прыехаў цыган-мядз-

веднік. Ён скуплівае малых медзведзянятак для скамарохаў. Не раз Хомка сам бачыў гэтых скамарохаў з мядзведзямі:

— А ну, Мішка, люльку куры!

Мішка курыць.

— А ну, Мішка, танцуй!

Мішка танцуе.

— А ну, Мішка, спявай!

Мішка раве.

Хомка ўзяў медзведзянят, пасадзіў на воз і павёз дамоў. Аднак не пашанцавала Хомку. Цыган-мядзведнік паехаў. Хомка ў сенцах прывязаў медзведзянят, паіў іх і чакаў пакуль мядзведнік вернецца назад.

Быў якраз час жніва. Жалі бабы на панскім полі. Тут над імі стаялі прыганятыя з бізунамі. Той-жа паніч Прушынскі разгульваў на полі са стрэльбай. А поле было ля самага леса. Тут-жа пад дрэвамі, у цяньку, ляжалі ў кашолачках малыя дзеці. Сасолачкі смакталі. І вось не агледзеліся людзі, як да дзяцей падкраўся мядзведзь і хапнуў Хомкіна дзіцё разам з кашолкай. Агледзеліся людзі. Хомчыха ўзняла плач, лямант, крык.



— Дзіцянё родненькае... Дзіцянё міленькае... Дзіцянё бедненькае...

А мядзведзь нясе сабе дзіцё павольна, асцярожна. Паніч нацэліўся са стрэльбы ў мядзведзя.

— Не страляй, панічок! Не страляй...— загаласіла Хомчыха.— Яшчэ дзіцёнка застрэліш.

— Дурная ты!—сказаў паніч.— Няхай лепш куля трапіць у дзіцё, чымся дзіцё ў зубы і кіпцюры мядзведзя... Лягчэйшая смерць.

Неспадзяваны абаронца мужыцкіх дзяцей цэліўся ў малое дзіцё... Выстраліў.

Пошчакі разлягаліся па лесе. Мядзведзь паваліўся і яшчэ здолеў асцярожна паставіць у бок кашолку з дзіцем.

— Дзіцё жывое! Жывое! Жывое!—закрычалі жнейкі на розныя галасы.

Паніч аж заскрыгітаў зубамі. Цэліўся ў дзіцё ды не папаў. Вось няўдалы стралец... Гонар быў яму даражэй за мужыцкае дзіцё.

Пабегла Хомчыха па дзіцё. Падняла кашолку і ўзрадавалася:

— Дзіцё цэленькае! Смяецца дурненькае. Дзякуй панічу...

У гэтую-ж хвіліну з лесу выскачыла мядзведзіха, вырвала з рук Хомчыхі дзіцё і знікла ў лесе.

Дзівіліся людзі, а Хомчыха качалася па іржышчы ды галасіла:

— Дзетка маё маленькае... Дзетка маё родненькае...

Паніч склікаў паляўнічых з усёй ваколіцы. Нарыхтавалі аблаву. Мядзведзіхі і след прастыў.

Суседзі раілі Хомку панесці малых медзведзянятак у лес на тое самае месца, дзе ён іх узяў.

Хомка так і зрабіў.

У тую-ж ноч чуе Хомка—нехта стук-стук у акно. Ён падышоў, бачыць — за акном мядзведзіха стаіць ды лапай, як чалавек, не раўнуючы, грук-грук па шыбе.

Пабаяўся Хомка выйсці з хаты. Затое Хомчыха смела выскачыла—матка... Сэрца маткі заўсёды чуе і кепскае і добрае.

Мядзведзіха падняла з зямлі дзіцё і падала мацеры ў рукі. Хомчыха падзякавала. Мядзведзіха нешта зараўла ў адказ. Паглядзела на Хомчыху, паслухала як тая плача і смяецца ў адзін і той самы час, выцерла лапай вочы ды спакойна пайшла на гумно, а адтуль у лес.

Хоць дзіцё было ў мядзведзіхі цэлы тыдзень, але было вясёлае і ружовенькае,— лепш чым у маткі. Мядзведзіха не адбывала-ж прыгон. Відаць, акуратна карміла

чалавечае дзіцянё сваім мядзведскім малаком.

Дзіцё расло дужае, здаровае. Вырас добры хлопчык. Як ён пачаў хадзіць, яго ўсё цягнула ў лес. Аднаго разу ён пайшоў у лес—і, колькі яго ні шукалі, не знайшлі.

— Пэўна, ваўкі з'елі,—гаварылі людзі.

Усё лета палясоўшчыкі скардзіліся, што хтосьці крадзе ў іх хлеб і мёд.

І вось у самую восень, калі надышлі халады, хлопчык вярнуўся дамоў.

— Дзе-ж ты быў?

— У мядзведзяў...

— Як гэта?

— Захацелася да іх. Вось я і пайшоў...

— Чым-жа ты жывіўся там, сынок?

— Мядзведзіха прыносіла мне хлеб і мёд.

Кожны раз, канчаючы гэта апавяданне, Вышамірскі гаварыў:

— Каб я з гэтага месца не ўстаў, калі маню!

І ён уставаў з месца і ішоў дамоў, абапіраючыся на кіёк.

— Хлусіць Вышамірскі,—гаварыў дзед.

— Лепш разумная мана, чымся неразумная праўда,—апраўдвала Вышамірскага бабуля.



# ЯК ВЫРАСТУ—СТАНУ ПІЛОТАМ



*Высока над хмаркамі ў небе,*
*У чыстай, як лёд, сіняве*
*Плыве самалёт, нібы лебедзь,*
*Нырае ў паветры, гудзе.*

*Такім лебядзіным-бы лётам*
*Узняцца над вёскай маёй...*
*Як вырасту—стану пілотам,*
*Надзену пілотку з звяздой.*

*... Лячу над сталіцай—Масквою,*
*Я Крэмль в вышыні пазнаю.*
*Летам і снежнай зімою*
*Пільную радзіму сваю.*



*Грыша Змітрэнкаў*

Вёска Астрагляды, Брагінскі раён.



# КАЗКА ПРА ВОЖЫКА

Куба ПАЎТАРЖЫЦКІ

Рысункі М. КАРПЕНКО

I

Ў цёмным лесе, за ракою,
Ад сяла падаць рукою,
Жыў у хатцы мудры вожык
Год са сто, ці болей можа!
Разам з сонцам росным ранкам
Ён выходзіў на палянку,
Дзе вясёлы салавей
Граў на дудачцы сваей.
Вожык мірны, вожык ціхі,
Чым багаты, тым і рад;
Ён жыве сабе з важыхай,
Вучыць грамаце рэбят.
Строіць дом сабе ён новы
З крышай моцнаю сасновай.
Адным словам,—цэлы рот
У яго турбот, забот.
Ні пры львах, ні пры лісіцах
Вожык маху не даваў
І ў калючых рукавіцах
Ўсіх суседзяў ён трымаў.
А якія-ж там суседзі?!.
Бегемоты і мядзведзі,
Тыгры, леў—звярыны цар!
І лісіца—сакратар!

І суседзі злосна вылі,
Рык быў чуцен на поўмілі:
«Чаму вожыка не з'елі
Мы ў мінулую нядзелю?!.
Ах, праціўны, ах, ты злюка,
Пападзіся толькі ў рукі!»
Льву дакладваў бегемот:
«Укалоў ён мне жывот.
Я па лесе раз кружыў,
Бо, прызнацца, заблудзіў...
Замарыўся,—бух у мох
Ды на вожыка і лёг!»
Нават скардзіўся і слон:
«Ён пячэцца, як агонь!
Я калюч яго паспробваў.
Паглядзіце—раніў хобат...»
Леў паслухаў і сказаў:
«Як я ёсць звярыны цар,
То выношу я загад
Прачытай ім, сакратар».
І лісіца прачытала:
«Так, як вожык ўсіх калоў
І бяды прынёс не мала,
То парваць на 100 кускоў;

А кускі ка мне прынесці,
Каб за царскім блюдам з'есці!»
І паслаў, каб зачапіцца,
Леў да вожыка асу,
Бо яна, каб з кожным біцца,
носіць вострую касу.
Ноч прайшла ўся у спакоі
І прайшлі яшчэ часы,
Але што гэта такое—
Не відаць нідзе асы?
І прынеслі раптам вуткі
Неправераныя чуткі:
Быццам вожык лёг на віку
І спакойна сабе спіць,
А аса, як-бы на піках,
На іголачках вісіць.
Як пачуў аб гэтым леў,
Дык ад злосці пасінеў.
Зарыкаў на страх звярам:
«Слухай лес, іду я сам!»
Вось ідзе ён лесам дзікім,
На поўмілі чуцен хруст.
Перад ім кусты. Ён з рыкам
Захацеў ступіць на куст...
Толькі што гэта быць можа?..
Кусцік раптам запішчэў:
«Асцярожна! асцярожна!
Вы ўколіцеся, леў!»
Ад здзіўлення аж прысеў
На свой хвост магутны леў.
І затросся ён ад злосці:
«Расплюшчу!! як блін зраблю!
На муку сатру ўсе косці!
Крыўды гэткай не спушчу!!
Словы царскія паслухай:
Да мяне данеслі слугі,—
Быццам ты, як цар жывеш
І мяне не прызнаеш!»






Ды яго леў як схапіў,
Дык ад болю аж завыў,
Бо параніў увесь язык.
Вось дзе рык быў ужо, дык рык!..
Леў завыў-бы горай воўка,
Боль такі, што не сцярпець,
Толькі льву так выць не лоўка—
Страціш з гэтым сваю чэсць.
І прышоўшы ён дадому,
Зубы сціснуўшы, маўчаў.
Лёг ў знямозе ў салому
І аб тым, што ўцякаў
Ні звярам сваім, нікому,
Нават жонцы не сказаў.

II

Раз прышлі звяры ўсе
Ў хату з просьбаю к лісе.
«Добры дзень, табе сястрыца,
Мы паклон табе нясем!
Ты вядомая хітрыца,
Ад таго, што ты лісіца
І што здатная на ўсё.
Не забылася ты, можа,
Паміж нас яшчэ жыве
Той агідны, брыдкі вожык,
Што звяроў не прызнае.
Дык вось просім усім гуртам
Збаў ад гэтае пакуты».
І адказвае ліса:
«Ён з пакорнасцю сагне
Сваю спіну прада мною.
Будзьце толькі у спакоі.
А цяпер я ў лес іду
І там вожыка знайду».
Вось ліса пад куст падходзіць
І там вожыка знаходзіць,



«Добры дзень, мілейшы вожык!
Гэта ваш прыгожы дом?
Вас ніхто тут не трывожыць?
Не мяшаюць вам кругом?
Сёння ўсе ў звярыным міры
Парашылі жыць у міры,
Жыць дзе хочаш—у лесе, ў полі
І не грызціся ніколі.
Ад чаго бяды ў нас многа,
А на лад нішто не йшло?
Грызлі мы адзін другога...
Хіба-ж добра так было?
А звяроў сустрэнеш розных:
Многа слабых, многа грозных—
Даганяй, хто ёсць сільнейшы,
Уцякай, хто ёсць слабейшы!
Дык каб кожны звер са зверам
Жылі ў згодзе, як браты,
Прынялі такія меры:
Абяззброіць ўсе раты!
Гэта значыць вырваць зубы
У любога. Для звярэй
Будзе той ім вельмі любым,
Хто дастане іх хутчэй.
Ад таго, што львы і зубры,
Тыгры, воўк і бегемот
Сёння выцягнулі зубы
І схавалі ў камод.
І ніхто цяпер не можа
Іх адрозніць ад ягнят»...
«А чаго,—спытаў тут вожык,—
Ад мяне патрэбна ім?»
«Ты не ведаеш, мой брат?
А каб стаў і ты такім!
Гэта значыць, каб у міг
Свае пікі ты састрыг
І паслаў-бы іх са мной
Для кампаніі лясной.
Ах, была-б я вельмі рада»...
Вожык ліску перабіў:
«Гэта ўсё, вядома, праўда,
Каб язык твой не зманіў.
Гэта слухаць вельмі люба,
Пікі я магу аддаць,
Толькі вось, раней мне зубы
Ты павінна паказаць.
Ты была-б настолькі мілай;
Каб з сабой іх захваціла»...
А ліса яму ў адказ:
«Ах, на гэты, вожык, час
Я прынесці іх забыла...
Я іх зараз, вожык мілы!..»
І, вільнуўшы тут хвастом,
Яна знікла за кустом.

* * *

Ў полі восень ужо бродзіць,
А за ёй ідзе зіма,
Ліса і летам не прыходзіць
І зімой яе няма.
І жыве ў лесе цёмным,
Як і ўвесь лясны народ,
Як заўсёды вожык скромны
Не адзін дзесятак год.






# ПРА ДЗЯДУЛЮ ПЯТРА ПЯТРОВІЧА

І. КІПНІС

Рыс. К. Гедды

У вялікім сяле, недалёка ад горада, жыве старэнькі дзядуля Пятро Пятровіч. Вочы яго добра бачаць, і вушы добра чуюць, а галава ўжо вельмі сівая.

Пашчаслівіла дзядулі на старасці год убачыць многа радаснага: цара скінулі, паноў прагналі, што-ж можа быць яшчэ лепш? Зямля наша, народ вольны, улада свая. Жыві ды радуйся!

Калісьці, памятае Пятро Пятровіч, на ўсё сяло быў усяго адзіны пісьменны чалавек, ды і той ледзь мог распісацца. А цяпер і старыя і маладыя ўмеюць пісаць і чытаць.

У дзядулі Пятра каля сарака ўнукаў. Усе яны адукаваныя і таленавітыя. Як рыба ў вадзе, адчувае сябе кожны з іх у новым шчаслівым жыцці. Мае дзядуля ўнукаў калгаснікаў, шахцёраў, аграномаў, шофераў. Ёсць сярод іх і танцоры, і музыканты, а трое нават пішуць у газетах.

Унучка Марыся доктарам стала. Прыехала неяк дадому і кажа:

— Хочаш, дзядулька, я цябе праз трубку выслухаю?

Дзядуля Пятро любіць пажартаваць. Вось ён і адказвае:

— Слухаць, унучка, можаш колькі заўгодна, але толькі хворых. А я, як бачыш, пакуль што здаровенькі.

І сапраўды, дзядуля Пятро здаровы. Ён яшчэ летась пасвіў калгаснае стада, а цяпер вартуе сельскі кааператыў.



Ідзе аднойчы Пятро Пятровіч па шырокаму тракту. Паглядвае на ўраджайныя палі, на шкляны завод, што пускае дым з вялікага коміна. Вось дарога, паплавы, рака. Па той бок ракі цагельны завод. Калісьці ўсё гэта належала пану.

За цагельным заводам—аэрадром. Адтуль, нібы птушкі, узнімаюцца самалёты. Гэта моладзь вучыцца лятаць, рыхтуецца абараняць нашу радзіму ад ворагаў.

Глядзіць дзядуля і не можа нарадавацца: усё, усё цяпер наша!

Тымчасам пад'ехала фурманка, запрэжаная парай добрых валоў.



— Добры дзень, дзядуля! Навошта табе ісці пехатой? Садзіся на воз, я цябе падвязу.

Углядаецца стары... Эге! Гэта-ж яго ўнук Нікіфар, які жыве са сваім бацькам у суседняй вёсцы. Відаць, хлопец сена вазіў, а зараз дадому вяртаецца. Сядзіць Нікіфар у вышытай кашулі, усміхаецца.

— На воз, кажаш?—усміхнуўся дзядуля.—Добра...



Нечакана на пары сытых коней пад'ехаў другі ўнук, Нефодзій.

— Тпру-у-у!—крыкнуў ён на сваіх арлоў і туга нацягнуў лейцы.

— Чакай, пацягнецца дзед на тваіх валах... Садзіся, дзядуля, да мяне! Ты не агледзішся, як ужо будзеш дома.

Бачыць Пятро Пятровіч, што коні ірвуцца наперад. Такіх коней калісьці меў толькі пан Зелянінскі і ездзіў ён на іх ад шынка да шынка. А зараз—коні нашы. Усё зараз наша.

— Да цябе, кажаш, сесці?..

— Дзын-дзын-дзын! — зазвінеў трамвай на рэйках, якія злучаюць горад з цагельным заводам. Кацярына, нявестка дзедавай дачкі Хрыстыны, радасная сядзіць ля матора. Убачыўшы старога, яна спыніла трамвай.

— Так табе і палезе дзядуля на воз! У маім трамваі ён адпачне на крэсле. Тут у нас чыста і вельмі прыгожа. Ну, як дзядуля? Лезь у вагон...

Падышоў Пятро Пятровіч да прыгожай хаткі з пасажырамі.

— Хе-хе-хе, зірніце толькі,— звярнуўся ён да абодвух унукаў.

Аднак не справіўся вымавіць апошняга слова, як падкаціў аўтамабіль.

— Ту-у, ту-у!—загудзела машына. А ў кабіне машыны сядзеў Пятрок, дзедавай дачкі Тэклі сын.

— Дзень добры, дзядуля!—сказаў ён.—Я еду з машына-трактарнай станцыі ў наша сяло. Едзем са мной. Сядзець ты будзеш на мяккім месцы. Мая машына—гэта не трамвай. Той ідзе толькі па рэйках, а машына пойдзе куды толькі захочаш.

А ў гэты час па Дняпру ішоў параход «Радзіма».

— У-у-у, дзядуля! Сюды!..

Паглядзеў дзед на параход і бачыць: зверху на капітанскім мосціку стаіць яго ўнучка Саклета, Мартынава дачка. Ах, які прыгожы параход яна вядзе! На ім, мабыць, вельмі прыемна ездзіць. Нават лепш, чым у аўтамабілі. Параход ідзе па роўнай паверхні вады, цябе не трасе, не падкідвае, няма ніякіх выбоін.



— Х-хе, глядзіце на Саклету!— паказвае дзядуля. Але вось у яго над галавой нешта загудзела. Падымае ён галаву і бачыць новенькі самалёт з чырвонай зоркай на крыллях.

— Гэта-ж, мабыць, Ляксей, сын маёй Марынкі. Вось гэта лоўка! Вось гэта дык унук! Ляціць ён у паветры і нішто не можа яго затрымаць. Ні дрыгва, ні лясы, ні горы.



— З кім-жа ты, дзядуля, хочаш паехаць?—пытаецца самы малодшы ўнук Косцік, які ішоў дадому са школы. Але дзед любіць пажартаваць. Вось ён і кажа:

— Э-эх, дзеткі мае! Вы яшчэ не ведаеце старога пастуха. Яго ўласныя ногі куды хочаш давядуць.—А потым дадаў:

— Куды яшчэ там ехаць! Вось так крышку патупаем, а там ужо і наша хата.

І памахаў рукою ўнукам.

Унукі таксама ветліва развіталіся са сваім дзедам і паехалі кожны па сваёй справе. А дзядуля з малым Кастусём весела пайшоў да свайго сяла.

Увайшоў дзядуля Пятро Пятровіч у сваю хату і гаворыць Пашы, Кастусёвай сястры:

— Эх, родная. Мне хочацца нешта такое сказаць, ну, напрыклад, каб увесь свет слухаў і ведаў, да якога шчасця стары Пятровіч дажыў.





# Камень

Р. Баумволь

*(Казка)*

Рысункі Шаўчэнка

Жылі калісьці на свеце два браты. Старэйшы быў чалавек злы і хцівы. Ён заўсёды скупіўся, шкадаваў усё і ўсім, нават роднаму брату. А малодшы—быў дурнаваты. Ён усім верыў, нават брату свайму—ілгуну і скнары.

Старэйшы брат ніколі не працаваў. Усё, што яму было патрэбна, ён здабываў падманам,—або сцягне цішком, або адбярэ сілаю. І ўсё, што аставалася ў яго, усё, што пасляваў за цэлы дзень выклянчыць і нарабаваць, ён хаваў на двары, у глыбокай яме, зверху накрываў саломай, а потым усцягваў вялікі камень.

Але камень гэты быў вельмі важкі, аднаму не хапала сілы ўцягнуць яго, і старэйшы брат кожны раз клікаў на дапамогу малодшага.

— Пойдзем,—казаў ён,—пойдзем, даражэнькі, памажы мне перацягнуць камень. А то я не магу глядзець, як такі важкі камень ляжыць увесь час на адным месцы і цісне на зямлю. Ей-жа вельмі цяжка.



А неразумны брат верыў і дапамагаў перацягваць камень.

Аднаго разу ён пахваліўся суседу, які ў яго жаласлівы брат: нават зямлю і тую шкадуе. І расказаў гісторыю з каменем.

Сусед быў чалавек разумны. Ён адразу зразумеў, што тут штосьці не так. І аднаго разу, калі старэйшы брат пайшоў з дому надоўга, сусед прышоў да малодшага і сказаў:

— Твой брат сёння вернецца позна, а зямля, бедная, стоміцца ад каменя, які ўвесь час ляжыць на адным месцы. Пойдзем, я памагу табе перацягнуць яго. Твой брат—чалавек добры і мне хочацца зрабіць яму паслугу. Можа, калі і ён мне дапаможа.

Малодшы брат, вядома, паверыў суседу. Ён зараз-жа пабег з ім у двор, да таго месца, дзе ляжаў камень.

Камень быў велізарны і абодва яны, абліваючыся потам, ледзь здолелі зрушыць яго з месца. А цягнуць на гэты раз прышлося далей, чым заўсёды, таму што як толькі малодшы брат спыняўся, сусед казаў яму:

— Яшчэ, яшчэ крышку далей, яшчэ крыху, вунь туды, за дрэва.

Навошта суседу трэба было цягнуць камень так далёка, вы зараз убачыце.

Калі камень ляжаў ужо за дрэвам, сусед сказаў:

— Пачакай тут, я зараз вярнуся. Паслухай, ці не стогне зямля: ці добрае мы, хаця, месца выбралі.



да таго месца, дзе павінен быў ляжаць камень. На спіне ён цягнуў мех, поўны розных патрэбных і непатрэбных рэчаў (ён браў усё, што трапіць на вока). У мяху былі скарынкі хлеба, якія ён выпрошваў, падэшвы, бляшанкі, якія ён знаходзіў, венікі і рагачы, якія ён краў, і розныя іншыя рэчы.

Ён шкадаваў запаліць запалку і ішоў у цемры.

«Вось тут, здаецца, павінен ляжаць камень»,—падумаў ён, і ў тую-ж хвіліну адчуў, што ляціць у яму...

Малодшы брат прачнуўся, пачуўшы стогны, якія даходзілі са двара. Спачатку ён вельмі спалохаўся, але калі апамятаўся, пабег будзіць суседа:

— Уставай, уставай, сусед! Чуеш, як зямля стогне? Паслухай...

Сусед адразу зразумеў, што адбылося. Ён быў вельмі рады: «Так яму і трэба, скнары!—думаў ён. Я не забыў, як ён у мінулым годзе, калі яму спатрэбілася падушка, жыўцом абшчыпаў маіх курэй»...

Але малодшаму брату ён сказаў не тое, што думаў:

— Ну, што-ж, прыдзецца нам камень перасунуць. Зараз адзенуся і памагу

Малодшы брат, вядома, паслухаў яго, па-першае, таму што быў неразумны, а па-другое, таму што вельмі стаміўся і хацеў адпачыць.

Сусед тым часам пайшоў туды, дзе раней ляжаў камень, разварушыў салому, залез у яму, усё, што было лепшага, выцягнуў адтуль і занёс да сябе на двор.

Вярнуўшыся да малодшага брата, ён убачыў, што той ляжыць на жываце, прыклаўшы вуха да зямлі.

— Ну, не стогне зямля? — заклапочана спытаўся сусед.

— Не, не чутно, не стогне.

— Ну, то і добра!—з палёгкай уздыхнуў сусед.—Пакінем камень тут і пойдзем дадому.

Позна ўначы, калі ўсе ўжо спалі, вярнуўся старэйшы брат. У дом ён не пайшоў, а адразу-ж стараною накіраваўся



табе. Твой брат мне калі-небудзь аддзякуе.

Праз некалькі мінут яны зноў цягнулі камень.

— Куды-ж мы яго пакладзем?—запыхаўшыся, спытаўся малодшы брат.

— Вядома, на старое месца!—адказаў сусед, ледзь перадыхнуўшы.

А сам падумаў: «Будзе помніць мяне твой брацік... Няхай пасядзіць у яме»...

Калі камень палажылі на месца, яны пайшлі дадому і леглі спаць.

Неразумны брат доўга не мог заснуць.

— Якія яны абодва дурныя!—падумаў ён пра свайго брата і суседа.—Навошта кожны раз цягаць камень з месца на месца, калі можна скінуць яго ў раку—і канец усяму...

І ён спакойна заснуў, цвёрда рашыўшы сказаць гэта абодвум неразумным, якія самі ні да чаго дадумацца не могуць.





АЛЕСЬ БАЧЫЛА

# ЖУК

Раз пайшлі мы ўсе гурбою
Экспанатаў пашукаць,
І злавілі пад вярбою
Велічэзнага жука.

Гора з ім было і мукі,—
Ён кусаў усіх за рукі.
І сказаць вам па сакрэту,
Мы надумалі тады
Завярнуць яго ў газету,
Каб не ведаць больш бяды.

А калі з вячэрнім светам
Мы леглі спакойна спаць,
Ён прарваў уміг газету
І пусціўся уцякаць.

Мы тады яго злавілі,
На іголку пасадзілі,
Ды на сонцы засушылі.

Не ўцякаць яму ўжо болей,—
Экспанатам ён у школе.



## Вілка.

У 1608 годзе Італію наведаў адзін англічанін, якога звалі Томас Карыят. У часе падарожжа ён вёў дзённік, куды запісваў усё, што яго асабліва здзіўляла.

На адной старонцы дзённіка ёсць такі запіс:

„Калі італьянцы ядуць мяса, яны карыстаюцца невялічкімі віламі з жалеза або сталі, а часам і срэбра. Італьянцаў ніяк нельга прымусіць есці рукамі. Яны лічаць, што есці рукамі нядобра, бо не ў кожнага рукі чыстыя".

Раней, чым накіравацца дадому, Карыят набыў такія „вілы". Вілка, якую ён купіў, была мала падобна да нашых вілак. Гэтая вілка мела толькі два зубцы, а ручка, упрыгожаная на канцы шышачкай, была зусім маленькай, мала даўжэйшай за зубцы.

Прыехаўшы дадому, Карыят парашыў пахваліцца перад прыяцелямі і знаёмымі сваёй пакупкай. На запрашальным абедзе ён выцягнуў з кішэні вілку і пачаў есці, як елі італьянцы.

Вочы ўсіх уставіліся на яго. А калі ён растлумачыў, што гэта такое ў яго руках, усе захацелі бліжэй разглядзець італьянскі інструмент для яды. Вілка абышла ўвесь стол і ўсе ў адзін голас парашылі, што італьянцы вялікія дзівакі, што есці віламі вельмі нязручна.

Томас Карыят прабаваў спрачацца, даводзячы, што нядобра браць мяса рукамі, бо не ва ўсіх рукі чыстыя. Гэта выклікала агульнае абурэнне. Няўжо містэр Карыят думае, што ў Англіі ніхто не мые рукі перад ядой? Няўжо нам мала дзесяці пальцаў, якія дала прырода, і мы мусім дадаваць два штучныя пальцы? Няхай ён пакажа, ці лёгка справіцца з гэтымі недарэчнымі віламі.

Карыят захацеў паказаць сваё майстэрства. Але першы-ж кавалак мяса, які ён узяў з блюда, пляснуўся з вілкі на сарвэту. Смеху і жартаў не было канца. Небарака-падарожнік павінен быў схаваць сваю вілку назад у кішэню.

Апавядаюць, што вілкі былі вынайдзены тады, калі пачалі насіць вялікія каўняры. Каўняры гэтыя перашкаджалі есці: яны падпіралі бараду, не дазвалялі нахіляць галаву, нібы галава была пасаджана на вялікае круглае блюда. У такім каўняры, зразумела, было зручней есці вілкамі, чым рукамі.

Гэта, мабыць, казкі. Вілкі паявіліся тады, калі людзі пачалі часцей мяняць бялізну, мыцца, гэта значыць, папросту тады, калі людзі зрабіліся больш культурнымі.



## Першы сапраўдны самалёт

Першы ў свеце аэраплан, які паднімаў чалавека, пабудавалі ў канцы 1903 года амерыканцы браты Райт.

Калі аднаму з іх было 7 год, а другому 11, бацька прынёс ім лётаючую цацку— „Гелікоптэр"—і запусціў яе. Цацка паднялася да столі. Уражанне гэтай цацкі засталося на ўсё жыццё. Праз некалькі год браты Райт пачалі самі будаваць для сябе гелікоптэры, паступова павялічваючы іх размеры.

З 1900 года браты Райт прыступілі к доследам з планерамі. Спачатку яны запускалі свой планер на вяроўцы, потым кідаліся на ім з узгорка, а ў 1902 годзе прывязалі яго вяроўкай да аўтамабіля: адзін сядзеў у аўтамабілі, другі на аэраплане. Аўтамабіль імчаўся па берагу мора, вяроўка нацягвалася, і планер ляцеў над берагам на вышыні 20-30 метраў.

Пасля даследванняў Райты вырашылі, што матор з аўтамабіля трэба перанесці на планер. У 1903 годзе яны самі зрабілі бензінавы матор, устанавілі яго на планеры і пабудавалі прапелер і, калі запусцілі матор, планер з маторам сапраўды паляцеў.

Гэта і быў першы аэраплан, створаны 36 год назад.






Жыў-быў на свеце трусік. Ні дзень, ні ноч не ведаў ён супакою ад шэрага воўка. Пабудаваў сабе саламяны домік— воўк яго разбурыў. Тады пайшоў трусік і паклікаў каменшчыкаў. Склалі яны яму домік з дошак на каменнай кладцы, добры запор прыладзілі да дзвярэй. Цяпер ён мог спакойна адлучацца з дому; вернецца,—сядзіць сабе ля агню, пакурвае трубку, чытае газету, як належыць сямейнаму чалавеку. Воўк толькі зубамі шчоўкаў—пажывіцца няма чым.

Аднаго разу сабраўся трусік схадзіць да суседзяў, як раптам пачуў страшэнны шум і ў дзвярах паказаўся воўк. Ён быў увесь у гразі.

— Ратуй мяне, брацец трусік! Сабакі па пятах скачуць, ледзь-ледзь не парвалі мяне. Схавай куды-небудзь!

— Ну што-ж,—сказаў трусік.—Вунь стаіць вялікая скрынка, скачы ў яе.

Скокнуў воўк у скрынку, захлопнулася крышка, звякнуў крук аб пятлю. А трусік прысеў бліжэй да агню, адчыніў табакерку, узяў добрую панюшку табачку. Доўга ён так прасядзеў, моршчыў лоб, нешта думаў.



Тут воўк падаў голас з скрынкі:

— Што, сабакі пайшлі, трусік?

— Не, адна ўсё нюхае за вуглом.

Узяў трусік чайнік, наліў вады, паставіў на агонь.

— Што ты там робіш, трусік?

— Хачу пачаставаць цябе чаем.

А сам бярэ бураў, і ну свярдліць дзіркі ў крышцы скрынкі.

— Што ты там робіш, трусік?

— Свярлю дзірку, каб табе не было душна.

Прынёс трусік дровы, падкінуў у агонь.

— Што ты там робіш, трусік?

— Дровы падкінуў у агонь, каб ты не змерз.

Пайшоў трусік, прывёў з суседняга пакоя сваіх дзяцей.

— Што ты там робіш?

— А вось расказваю дзеткам, які ты добры сусед.

А трусяняткі раты заціснулі лапкамі, каб не рассмяяцца.

— Што там за шум, трусік?

— Гэта вецер свішча ў трубе.

— Хто гэта шчыпле мяне за бакі?

— Гэта блохі кусаюць цябе, воўк.

— Ой, кусаюцца яны!

— Павярніся на другі бок.

— Нешта пячэ мяне...

— Гэта ўсё блохі, блохі.

— Зусім заелі,—сказаў воўк.



А вада ў дзірачкі—цур-цур, а з кіпятком жарты дрэнныя. Як завые, як падскочыць воўк! Крук разам з пятлёй адляцелі. Воўк выскачыў і давай уцякаць за ўсе лапаткі. А малыя трусяняткі ўслед яму галасна рагаталі.

Запісаў у калгасе „Чырвоная Іскра", Талачынскага р-на, *Коля Нісневіч*

Цана 30 кап.



# З АСЛОМ УПАРТЫМ—МАЛЫЯ ЖАРТЫ

Тэкст ЖУРБЫ



I. Каб свет вялікі добра знаць,
Сябры рашылі вандраваць.



II. Але асёл іх захацеў
Вярнуцца ў свой утульны хлеў.



III. Падбрыкнуў ён і паскакаў,—
Адзін яздок ужо упаў.



IV. Ці гэта праўда, ці злы сон?—
Сябра другога скінуў ён.



V. А потым хітры наш асёл,
Бы хворы, грымнуўся на дол.



VI. Тут прыкрасць экоў сябрам прышла:
Бо трэба несці ім асла.



Рэдактар А. Бярозкін. Афармленне М. Свяцкага. Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна, Мінск. 20.000 экз. Зак. № 2398. 2¹/₂ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № Б—2782.